# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 45 (663) ГОД XIII 10 ЛІСТАПАДА 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ПАВУЧАЛЬНАЯ НАРАДА

Тэзісы ЦК ПАРП закранулі ўсе ўстановы, усе арганізацыі. Пачалася вялікая размова партыі з усімі людзьмі нашай краіны. Усе трансмісіі партыі да народа прыступілі да яшчэ актыўнейшай дзейнасці. У тым ліку і Беларускае грамадска-культурнае таварыства на нарадах абмяркоўвае сваю працу, выплаўліваючы найбольш эфектыўныя формы дзейнасці, якія служаць яшчэ лепшаму выхаванню чалавека — будаўніка сацыялістычнага грамадства.

27 кастрычніка адбылася нарада актыву БГКТ Бельскага аддзела.

Нашыя дзеячы БГКТ, якія непасрэдна працуюць у гушчы мас, расказвалі, як яны прыступалі да працы і якія вынікі дае грамадская праца. Вось таму прыводжу тут некалькі найбольш цікавых выказванняў.

**Аляксандра Панасюк — настаўніца з Пасынак:**

— Ужо тры гады ў Пасынках дзейнічае гурток беларускага таварыства і ўжо тры гады ў гэтай вёсцы працую я з моладдзю. Праца нялёгкая. Не заўсёды зробіш так, як хочаш, бо і з дысцыплінаю ў моладзі не заўсёды добра. Маё гоббы — гэта тэатр. І таму я ўзялася за мастацкую самадзейнасць, якая мае немалы выхаваўчы ўплыў на моладзь. Пачаткова не выходзіла, але паступова ў маладых юнакоў і дзяўчат штораз больш было зацікаўлення беларускім рэпертуарам. Выступленне на сцэне робіць вялікае ўражанне і сярод удзельнікаў сцэнічнага слова і сярод насельніцтва, якое прыходзіць пабачыць тую ці іншую п'есу ў выкананні моладзі са сваёй вёскі. У Пасынках дрэнна толькі з тым, што мала моладзі, а дзяўчат амаль зусім няма. Таму я заахвоціла моладзь з суседняй вёскі Сакі і разам з моладдзю Пасынак мы рыхтуем п'есы.

Як правіла, пачынаецца актыўная праца з моладдзю ўвосень. У студзені і лютым — самы вялікі разгар дзейнасці. А калі пачынаюцца палявыя работы, супыняецца дзейнасць нашага драмгуртка.

Яшчэ адна справа. Усе мы ведаем, што кніжка, як ні што, наймацней дзейнічае на паводзіны моладзі, на іх стабілізаванне характару. А ў нас любіць моладзь чытаць. Меншым поспехам карысталіся беларускія кніжкі. Вось таму пачалі мы арганізоўваць вечары беларускай прозы і паэзіі. І яны садзейнічалі большаму зацікаўленню роднай літаратурай.

**Ніна Война — настаўніца з Орлі:**

— Мы, настаўнікі, у нашай школе праз дзяцей маем вялікі ўплыў на бацькоў. Ёсць у нас апрацаваная праграма пазашкольнай працы. На кожную чвэрць навучальнага года мы маем па два бацькоўскія сходы. Гэта — паўвывядоўка і вывядоўка. Да іх мы моцна рыхтуемся. На беларускай мове рыхтуем мы мантажы, прысвечаныя гадавінам або нейкім падзеям. Напрыклад, быў у нас мантаж, прысвечаны 25-ай гадавіне Войска Польскага, 50-ай гадавіне Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі, 50-ай гадавіне Савецкай Арміі і іншыя. Пасля вывядоўкі бацькі заўсёды ахвотна прысутнічаюць на мастацкіх выступленнях сваіх дзяцей. І таму на вывядоўках у нас заўсёды многа людзей, бо ўсе ведаюць, што пасля яе будзе мастацкая частка.

(Працяг на стар. 4)




# ПАРТЫІ ПІСЬМО АД СЕЛЯНІНА

Я — селянін. Адзін сярод 777 тысяч сялян, якія жывуць на зямлі маёй роднай Беласточчыны, якія аруць гэтую зямлю і яе засяваюць. Я нічым асаблівым сярод іх не вылучаюся: не лепшы і не горшы ад іх. Аднак асмельваюся звярнуцца да Вас, паважаныя дэлегаты на V з'езд нашай партыі, а праз Вас да ўсёй партыі, у якой бачу мозг і сэрца нашага народа. Прашу, паслухайце мяне. Хачу расказаць Вам пра сваё жыццё. Шчыра, ад душы, як найлепшаму сябру.

Не ведаю чаму, па якой прычыне натура пакрыўдзіла маю родную зямельку. Не дала ёй плённага чарназёму, а шчодра абдзяліла яе худзенькім пясочкам і дрыгвястым балотам. У ва ўсім ваяводстве не знойдзеце ў нас, хаця б на паказ, зямлі, якую лічаць у першы клас. Другакласнай глебы знайшлося б не больш, як на адзін агарод.

Чым жа тады пахваліцца перад Вамі, таварышы паважаныя дэлегаты?

Памятаю дзень — ліпеньскі, парны. Былі мы на полі. Бацька махаў касой, а мы — яго дзеці — сярпамі. Жменя за жменяю збіралі мізэрнае жыта. Бацькоўская палоска шырынёю ў 2 метры цягнулася на паўкіламетра. У абед маці прынесла нам ежу: пызаты гаршок халадцу і міску бульбы, акрашанай смятанай. Больш нічога. Бо больш нічога не было ў хаце. Расселіся мы пад старой грушай, якая кідала цень на цэлую шырыню нашай палоскі. Схапілі мы за лыжкі. Бацька дзелавіта папярэдзіў усіх, каб елі памяркоўна, каб дасталося па роўнай долі.

Было гэта нейкіх 20 год таму назад.

Зараз няма ўжо там бацькоўскай палоскі. Яна сталася часткай нейкага хутара. Няма, на жаль, старой грушы. Яе зрэзалі, бо сваімі тоўстымі, скручанымі ў густую сетку карэннямі ламала касілкі і лемехі трактарных плугоў.

Трактары... У маёй вёсцы першы трактар пабачылі людзі, здаецца, у 1950 годзе. Быў гэта чырвоненькі «Зэтар». Атрымаў яго мясцовы ГС, каб араць панскую зямлю, якая часткова дасталася яму ва ўладанне. Тады нават не прыйшло мне ў галаву, што падобная машынка за 10—15 год будзе выручаць мяне ў працы. Зараз па дарогах і палях Беласточчыны нясецца гоман ад 5 тысяч трохсот трактароў. Сярод гэтай сям'і жалезных коней найбольш трактараў гурткоўскіх, амаль тры тысячы. Паглядзіце ў статыстычны справачнік. Там паказана, што

(Працяг на стар. 5).

КАНЕЦ ЦЕРАСПАЛОСІЦЫ

# РУНЬ З'ЕЗДА

З'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі з вялікім працоўным уздымам спатыкаюць усе сяляне, усе хлебаробы нашай краіны. Асабліва з вялікай радасцю і задавальненнем сустракаюць з'езд нашай партыі сяляне паўднёва-ўсходняй часткі Сакольскага павета. А гэта таму, што нядаўняя сяўба азімага жыта і пшаніцы адбывалася па-новаму, адбывалася не на вузенькіх і некалькікіламетравай даўжыні загонах, а на шырокіх палетках, на якія можна было ўвесці сеялку, трактар і іншыя машыны. Згодна з пастановамі партыі ў паўднёва-ўсходняй частцы Сакольшчыны наступіў канец цераспалосіцы.

У Сакольскім павеце ліквідацыя цераспалосіцы праводзіцца ў пяці аграмадных камасацыйных аб'ектах. У аб'екце Крушыняны ліквідуецца цераспалосіца на каля 4 тысячах гектараў зямлі, у аб'екце Крынкі — больш як на 5,5 тысячах гектараў. У трох наступных аб'ектах — Паўночны Востраў, Вярхлессе і Гураны — ужо зліквідавана цераспалосіца на плошчы больш 6-ці тысяч гектараў. У кожным аб'екце знаходзіцца шмат вёсак, а гэта значыць, сотні гаспадароў ужо вызвалены, або ўжо за год будуць вызвалены ад нязноснай раздробленасці зямлі па кавалачках.

А вось некалькі прыкладаў гэтай раздробленасці: Шыман Каліш з Саннікаў мае сваіх дзесяць гектараў зямлі ў 48 кавалках, Аляксандр Юрэвіч — няпоўных 9 га ў 52 кавалках, у Пятра Яновіча з Белагорцаў 3 га зямельных угоддзяў знаходзіцца ў 30 кавалках, а Уладзіміра Курцэвіча — 4,5 га ў 44 кавалках.

Гэтыя факты выразна сведчаць аб тым, што на такіх кавалачках немагчыма гаспадарыць, немагчыма выкарыстоўваць угнаенні і сучасную сельскагаспадарчую тэхніку. Гэтак сама не маглі карыстацца сучаснай сельскагаспадарчай тэхнікай і сяляне Гуран, Свідзялоўкі, Грыбоўшчыны, Вярхлесся, Паўднёвага Вострава, Паўночнага Вострава, Новага Вострава і шмат іншых вёсак.

Сёлета ў іх сяўба азімых культур адбылася ўжо па-новаму.

— У нас цяпер з'ездаўская сяўба хлеба, — гавораць там сяляне. — У нас аграмадныя перамены, да якіх яшчэ мы не прызвычаіліся. Не адзін гаспадар выходзіць на свой хутар і дзівіцца і цешыцца шырыні палеткаў, прыгожай руні жыта, нядаўна пасеянага. З'ездаўская рунь, зялёная і буйная рунь. Тут, на гэтых скамасаваных палетках будуць хадзіць стальныя коні, якія сведчаць аб вялікім прагрэсе вёскі. Ліквідацыя цераспалосіцы азначае хуткі ўзрост сельскагаспадарчай вытворчасці, аблягчэнне працы селяніна, эканомію яго часу ў апрацоўцы зямлі.

Ліквідацыя цераспалосіцы на Сакольшчыне прычыніцца да ліквідацыі аблогаў, якіх шмат у кожнай вёсцы. У раёне Крынак арганізоўваецца ПГР, землі якога ў асноўным будуць складацца з пакінутых гаспадарак і з дзяржаўнага фонду зямлі. Адным словам, з тых зямель, якія не абрабляюцца. Мярнічыя перасунулі зямельныя граніцы ў кожнай вёсцы так, каб столькі зямлі, колькі ляжыць аблогам, аказалася ў адным месцы. Яшчэ пройдзе два-тры гады — і на гэтых аблогах таксама зазелянее рунь.

У кожнай вёсцы было шмат нізкаякаснай зямлі, на якой вельмі дрэнна расло збожжа. Коштам такіх земляў павялічыліся вясковыя супольныя пашы. Апрача таго, шмат зямельных няўгоддзяў прызначана пад пасадку лесу. Напрыклад, у аб'екце Крушыняны больш 1000 га будзе залесена, у аб'екце Крынкі 400 га пойдзе пад пасадку лесу. Многа зямельных няўгоддзяў прызначана пад залясенне ў камасацыйных аб'ектах Вярхлессе, Гураны і Паўночны Востраў.

Пройдзе нейкі час, зменіцца значна тут краявід. Значна прыбавіцца тут лесу.

Мярнічыя, якія праводзілі камасацыю ў вялікіх цэнтральных вёсках, так званых вёсак «развaёвых» выдзялілі месца на многія будучыя будынкі, на патрэбныя пункты камунальнага і культурнага характару.

Возьмем, для прыкладу, вёску Паўднёвы Востраў, якая знаходзіцца ў грамадзе Гураны. У перспектыўных планах запланаваны наступныя ўста-

(Працяг на стар. 5)

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### УЦІХЛІ БАМБАРДЗІРОЎКІ

1 лістапада прэзідэнт Джонсан устрымаў усялякага роду, г.зн. з паветра, зямлі і мора, бамбардзіроўкі Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам.

Джонсан падкрэсліў адначасова, што «ЗША падрыхтаваны на ўсе магчымасці» і «што праціўнікі Злучаных Штатаў не павінны выцягваць з амерыканскага рашэння ваеннай карысці». Гэтыя засцярогі можна зразумець перад усім як прадказанне, што ЗША адновяць бамбардзіроўкі ў часе, калі прызнаюць гэта неабходным.

Трэба згадзіцца з палітычнымі коламі Вашынгтона, якія зварочваюць увагу на тое, што спыненне бамбардзіровак ДРВ азначае фіяска той амерыканскай стратэгіі, якая без поспехаў імкнулася стэрарызаваць вызваленчы рух і накінуць яму дыктат і капітуляцыю. Да такога рашэння Джонсана прымусіў в'етнамскі народ, яго баявыя поспехі на Поўдні і адпор налётаў на Поўначы, а таксама барацьба праціўнікаў амерыканскай агрэсіі, якая вялася ва ўсіх краінах свету са Злучанымі Штатамі ўключна.

Ацэньваючы рашэнне Джонсана, нельга не браць пад увагу таго, што было яно прынята на пяць дзён перад прэзідэнцкімі выбарамі ў Злучаных Штатах. Пагалоскі аб магчымасці спынення бамбардзіровак ДРВ кружыліся ад некалькіх тыдняў, і сусветны друк, уключна з амерыканскім, падкрэсліваў, што першай мэтай падрыхтоўваемага рашэння будзе павелічэнне выбарных шанцаў кандыдата дэмакратычнай партыі Губерта Хэмфры.

Неабходна прыпомніць, што першыя амерыканскія бомбы пачалі падаць на ДРВ у жніўні 1964 г. Сістэматычныя бамбардзіроўкі ДРВ пачаліся ў лютым 1965 г. і насіляліся аж да апошніх дзён. Колькасць і сіла скінутых бомбаў на Паўночны В'етнам большая, чымсьці танаж сродкаў, прымененых Злучанымі Штатамі ў час другой сусветнай вайны. Праўда, ад мая г.г. тэрыторыя налётаў была абмежавана да паўднёвых раёнаў ДРВ, але там было скінута больш бомб, чымсьці ў папярэдні перыяд на цэлую Рэспубліку.

Аднак барацьба в'етнамскага народа не толькі не аслаблялася, але ўзрастала. Аб гэтым сведчаць знаныя ў цэлым свеце наступленні партызан. Больш чым паўмільённая амерыканская армія, якой дапамагае 600-тысячная армія сайгонскага рэжыму і 100 тысяч салдат з Паўднёвай Карэі, Аўстраліі, Новай Зеландыі, Філіпін і Сіяму, сапхнута да абароны.

Трэба памятаць, што іменна ў такіх, а не ў іншых умовах урад Злучаных Штатаў прыняў рашэнне аб спыненні бамбардзіровак ДРВ. Урад ЗША прызнаўся гэтым самым як да ваеннага, так і палітычнага паражэння. Урад ЗША прызнаўся, што ваенная развязка в'етнамскай праблемы з'яўляецца па-за аб'ёмам магчымасцей амерыканскага імперыялізму, што неабходна палітычная развязка в'етнамскай праблемы.

А. К.

## БССР

### ПЛЕНУМ

Адбыўся ўрачысты пленум Цэнтральнага Камітэта камсамола Беларусі, Мінскага абкома і гаркома камсамола, прысвечаны пяцідзесяцігоддзю камсамола.

У пленуме ўдзельнічалі партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі Беларусі на чале з **П. Машэравым,** першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі.

«...Задача камсамольскіх арганізацый у цяперашні час заключаецца ў тым, каб выхоўваць юнакоў і дзяўчат усебакова развітымі, высокаадукаванымі, стойкімі барацьбітамі за нашу вялікую справу, узбройваць іх марксісцка-ленінскай тэорыяй, фарміраваць у іх навуковы камуністычны светапогляд, — сказаў П. Машэраў у сваёй прамове падчас пленума. — У цэнтры ўвагі павінны быць пытанні выхавання моладзі на рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцыях Камуністычнай партыі і савецкага народа. Трэба выхоўваць у кожнага маладога чалавека пачуцці савецкага патрыятызму і пралетарскага інтэрнацыяналізму, высокай класавай самасвядомасці, пастаянную гатоўнасць са зброяй у руках абараняць заваёвы Вялікага Кастрычніка, дзяржаўныя інтарэсы нашай Радзімы».

### АРАТАГА

Адбыўся конкурс лепшага аратага. У правядзенні спаборніцтваў прынялі ўдзел першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР **У. Лабанок,** міністр сельскай гаспадаркі БССР **С. Скарапанаў** і іншыя высокія дзеячы.

Лепшымі аратымі аказаліся: **Сяргей Іваноў, Міхась Бахар** і **Уладзімір Шкуратаў.**

### МАЛАДЫХ

У Салігорску адбыліся фінальныя спаборніцтвы конкурсу маладых муляраў і тынкоўшчыкаў рэспублікі.

Сярод муляраў найлепшым аказаўся **Леанід Навіцкі,** муляр 123-га БУ Салігорска, а сярод тынкоўшчыкаў найлепшы **Андрэй Ішчук** з першага Мінскага будаўнічага трэста.

### РАДЫЁСТАНЦЫЯ

Радыёстанцыя **«Савецкая Беларусь».** Так называецца радыёвяшчанне для беларусаў, якія жывуць за мяжой. Радыёстанцыя працуе штодзённа на хвалях 19, 25 і 31 метраў. Праграма яе пачынаецца ў 7 гадз. 30 мін. і 10 гадз. 30 мін.

### НАФТА

З кожным месяцам усё павялічваецца паток беларускай нафты. З пачатку года яе ўжо здабыта больш як мільён трыста тысяч тон. Цяпер дзейнічае 37 шчылін, да канца года будзе ўведзена яшчэ адзінаццаць. Разам з ростам здабычы нафты пачынаецца прамысловае выкарыстанне спадарожнага газу.

### ЗАЛАТЫ

Нядаўна ў балгарскім Плаўдзіве, горадзе міжнародных кірмашоў, на выстаўцы сельскагаспадарчых машын беларускі трактар «МТЗ—52» быў удастоены высокай узнагароды — яму прысуджаны залаты медаль. Гэта машына адпавядае лепшым сусветным стандартам.

(ся)

## ПОЛЬШЧА

### V З'ЕЗД

11 лістапада пачнецца V З'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Напярэдадні з'езда ўся краіна жыве бурлівым палітычным жыццём. На апошніх прадз'ездаўскіх канферэнцыях далей з прамовамі выступалі члены кіраўніцтва партыі:

### МАР'ЯН СПЫХАЛЬСКІ

На прадз'ездаўскай канферэнцыі ў Лодзі з прамовай выступіў Старшыня Рады Дзяржавы Маршал Польшчы Мар'ян Спыхальскі. Ахарактарызаваў ён вялікія дасягненні Народнай Польшчы ў трох асноўных галінах: развіцці гаспадаркі, фармаванні сацыялістычнага светапогляду і фармаванні новай структуры сучаснага сацыялістычнага грамадства. Прыводзячы дадзеныя адносна аграмаднага ўзросту ўзроўню прафесіянальнай адукацыі, прамоўца падкрэсліў, што ў след за гэтым павінны наступаць змены ў свядомасці. У сацыялістычным будаўніцтве асноўнай справай з'яўляецца фармаванне чалавека сацыялізма. А рашаючым дзейнікам фармавання новага чалавека, выхавання працоўных мас з'яўляецца марксісцка-ленінская партыя.

### РЫШАРД СТШЭЛЕЦКІ

У час прадз'ездаўскай партыйнай канферэнцыі Варшаўскага ваяводства з прамовай выступіў сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Рышард Стшэлецкі. Шмат увагі прысвяціў ён правільнаму развіццю партыйных радоў. Указаў ён на неабходнасць паслядоўнасці ў статутовых патрабаваннях да асоб, якія прымаюцца ў рады партыі. Асноўным заданнем партыйных арганізацый з'яўляецца ўменне спалучаць гаспадарчую дзейнасць з ідэйна-выхаваўчай і палітычнай і пастаяннае дасканаленне метадаў партыйнага кіраўніцтва ў гэтай галіне.

Кранаючы праблемы кіруючых кадраў, тав. Р. Стшэлецкі сцвердзіў, што мернікам іх узроўню павінны быць не толькі высокія кваліфікацыі і арганізатарскія здольнасці, але таксама поўнае палітычнае заангажаванне і ўласцівая маральная пастава. Мусім пастаянна памятаць, што члены партыі, незалежна ад займаемых пасад, у аднолькавай меры падвяргаюцца партыйнай ацэнцы і ў аднолькавай меры нясуць перад партыяй поўную адказнасць.

### МЕЧЫСЛАЎ МОЧАР

На прадз'ездаўскай партыйнай канферэнцыі цэнтральных устаноў Міністэрства Нацыянальнай Абароны з прамовай выступіў сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Мечыслаў Мочар.

Прамоўца ахарактарызаваў некаторыя асабліва важныя заданні, якія стаяць перад палітычным актывам нашых узброеных сіл. Характарызуючы аблічча сучаснага рэвізіянізму, тав. М. Мочар падкрэсліў, што згуртоўвае ён усе варожыя партыі сілы. У цесным супрацоўніцтве з рэвізіянізмам застаюцца нацыяналісты і рэакцыйная, варожая сацыялізму частка касцельнай іерархіі.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ДАЗ'ЕЗДАЎСКІ ЧЫН

Працоўныя горада Беластока выканалі свае даз'ездаўскія абавязацельствы ўжо амаль у 80 працэнтах. На многіх прадпрыемствах рабочыя сталі на прадукцыйную з'ездаўскую вахту. Для прыкладу: прадукцыйныя абавязацельствы Ваяводскага прадпрыемства мясной прамысловасці перавышаюць 16 мільёнаў злотых.

### У ГОНАР КАСТРЫЧНІКА

Рабочы калектыў фастаўскага баво́ўна-апрацоўчага камбіната як першы ў ваяводстве ўрачыста адзначыў 51-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. З нагоды кастрычніцкага свята работніца камбіната Надзея Авечка, якая з'яўляецца дэлегатам фастаўскіх рабочых на V З'езд партыі, атрымала дыплом «Заслужанай у прафесіянальнай працы і грамадскай дзейнасці». Інжынеру Яўгенію Канецко прысвоена званне «Заслужаны працаўнік прадпрыемства «Фасты».

### ЧАСОПІС «КАНТРАСТЫ»

За некалькі дзён паявіцца ў продажу новы — ўжо чацвёрты нумар беластоцкага грамадска-літаратурнага часопіса — «Кантрасты». Аб'ёмісты гэты часопіс на 50 старонках друку прыносіць шмат цікавага матэрыялу. З прыемнасцю паведамляем нашых чытачоў, што ў гэтым нумары «Кантрастаў» можна знайсці вершы і апавяданні нам ужо вядомых беларускіх літаратараў, згуртаваных у Беларускім літаратурна-мастацкім аб'яднанні «Белавежа». Такім чынам «Кантрасты» адзначылі дзесятую гадавіну беларускага літаратурнага руху ў Польшчы. Падборку твораў «белавежцаў» папярэджвае ўступны артыкул навуковага супрацоўніка Варшаўскага ўніверсітэта доктара Аляксандра Баршчэўскага, у якім аўтар інфармуе аб творчых дасягненнях беларускіх літаратараў, пражываючых у Польшчы.

### КСР У «СЯРЖАНА»

Канферэнцыя рабочага самакіраўлення (у польскім скарачэнні — КСР) з'яўляецца галоўным упраўляючым органам кожнага прамысловага прадпрыемства. Пасяджэнне КСР нядаўна адбылося на воўна-апрацоўчым прадпрыемстве імя «Сяржана» ў Беластоку. У час пасяджэння было між іншым сцверджана, што «сяржанаўцы» выпусцілі ў гэтым годзе звыш плана амаль 50 тысяч метраў гатовай тканіны.

### КЛУБ КНІЖКІ

Дзяржаўнае прадпрыемства «Дом кніжкі» супольна з рэдакцыяй «Газеты Беластоцкай» заснавалі «Клуб грамадска-палітычнай кніжкі». Асноўнае заданне, якое сабе ставіць гэты клуб, выяўляе яго лозунг: «Чалавек — свет — палітыка — 69». Членам клуба можа быць кожны грамадзянін, які захоча прыняць актыўны ўдзел у распаўсюджванні кніжак на грамадска-палітычныя тэмы. Членам клуба прыслугоўваюць шматлікія прывілегіі ў пакупцы цікавых кніжак. Дакладна аб гэтым інфармуюць усе кнігарні.

(вр)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela, 10.XI.**

8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy: ,,Opas cieląt na rzeź''. 8.40 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.00 ,,Ostatnia szansa'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''), 9.45 PKF. 10.00 Dla młodych widzów: ,,Sport i zabawa'' — turniej gier i zabaw sportowych (Frankfurt n/Odrą). 11.00 Sprawozdanie sportowe. 13.45 Dziennik. 13.55 PROM — koncert muzyki popularnej poświęcony Budowniczym Ośrodka TV w Krakowie. 14.35 Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1926. 15.00 Dla młodych widzów: S. Michałkow — ,,Trzy pomarańcze''. Widowisko Państwowego Teatru Lalek ,,Pleciuga''. 15.15 ,,Przemiany''. 16.25 ,,Moniuszko'' — teleturniej poświęcony życiu i twórczości kompozytora. 17.15 ,,O nauce polskiej''. 17.45 Estrada Literacka: A. Mickiewicz — ,,Ballady i romanse''. 18.35 ,,Krajobrazy 1968''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 I Ogólnopolski Festiwal Pieśni Zaangażowanej. Koncert finałowy. 21.05 ,,Gdynia-Port'' — rep. film. (,,Dzień powszedni Polski''). 21.15 ,,Trzy kroki po ziemi'' — film fab. pol. 22.50 Wiadomości sportowe.

**Poniedziałek 11.XI.**

15.35 Program dnia. 15.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci. ,,Pan Półka i spółka''. 17.15 ,,Zapora'' — rep. film. (,,Polaków dni powszednie''). 17.30 ,,Koncert na ekranie — ,,Śląsk''. 17.50 ,,Eureka''. 18.20 Program rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 20.00 Sprawozdanie z otwarcie V Zjazdu PZPR. Po sprawozdaniu: ,,Droga na zachód'' — film fab. pol. Dziennik.

**Wtorek 12.XI.**

8.30 ,,Droga na zachód'' — film fab. pol. 9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Plautus ,,Żołnierz Samochwał''. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół. Język polski — ,,Kto zwyciężył?'' (Życzliwość), (,,O miejsce wśród ludzi''). 11.25 Przerwa. 12.00 Dla szkół: (kl. II i III) ,,Ja i mój dom''. 12.20 Przerwa. 12.30 i 15.05 Przysposobienie Rolnicze: ,,Higiena przechowywania i transportu mleka''. 13.05 Przerwa. 15.00 Program dnia. 15.40 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: ,,Latający Holender w Szkierach''. 17.35 ,,Śpiewa Lili Iwanowa'' — film bułg. 18.00 ,,Książka, twój przyjaciel'' — teleturniej. 18.30 ,,Po szóstej'' 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Sprawozdanie z przebiegu obrad V Zjazdu PZPR. Po sprawozdaniu: ,,Kamo — niebezpieczna misja'' — film fab. radz. Dziennik.

**Środa, 13.XI.**

9.55 Dla szkół. (kl. VIII) Fizyka — ,,Pole elektrostatyczne''. 10.25 ,,Kamo — niebezpieczna misja'' — film fab. radz. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — ,,Korozja — wróg metali''. 12.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 ,,Matematyka w szkole'': ,,Przekształcania płaszczyzny''. 15.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec''. 17.25 ,,Obywatele'' — film pol. 17.40 ,,Trzy żywioły'' — film TVP. 18.10 ,,Bryza''. 18.35 ,,Muzyka — wspólny język narodów''. Gra Orkiestra Filharmonii Śląskiej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Sprawozdanie z przebiegu obrad V Zjazdu PZPR. Po sprawozdaniu ,,Zaliczenie'' — film TVP (nowela). ,,Światowid''. ,,Śpiewa Toulai''. Dziennik.

**Czwartek, 14.XI.**

10.00 ,,Skarb'' — film fab. pol. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — ,,Aleksander Fredro''. 12.25 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''. 17.50 ,,Białe góry'' — film pol. 18.05 Program filmowy. 18.30 ,,Ludzie czynu'' — rep. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Genialny plan pułkownika Krafta'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 21.00 Sprawozdanie z przebiegu obrad V Zjazdu PZPR. Po sprawozdaniu: Dziennik.

**Piątek, 15.XI.**

9.55 ,,Genialny plan pułkownika Krafta'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie ,,Zwiedzamy Kółko Rolnicze''. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie plastyczne — ,,Stanisław Wyspiański''. 12.25 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.05 ,,Kasia i Mruczek'' — film pol. 17.20 ,,Czas tworzenia'' (,,Polaków dni powszednie''). 17.40 ,,Dzień zdjęciowy'' — film bułg. 18.25 ,,Dialogi historyczne''. 19.20 ,,Gęsi za wodą'' — piosenki ludowe. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Sprawozdanie z przebiegu obrad V Zjazdu PZPR. Po sprawozdaniu: Teatr TV: J. Zieliński — ,,Kto jest za wnioskiem''. Dziennik.

**Sobota 16.XI.**

10.00 ,,Zosia'' — film fab. radz. 11.00 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — ,,Kanada''. 13.15 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 TV Kurs Rolniczy: ,,Intensywny tucz mięsny''. 16.10 Program tygodnia. 16.30 ,,Spotkania z przyrodą''. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: ,,Dla każdego coś miłego''. 17.40 ,,Warszawa, ja i Ty''. 18.10 ,,Maszopi'' (,,Polaków dni powszednie''). 18.35 ,,Pegaz''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.05 Sprawozdanie z przebiegu i zakończenia obrad V Zjazdu PZPR. Po sprawozdaniu: Dziennik. ,,Małżeństwo doskonałe''. ,,Zosia'' — film fab. radz.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 8 listopada**

7.55 Program dnia. 8.00 ,,Budzik''. 8.30 Operacja ,,Y''. Film fabularny. 10.00 Koncert dla dzieci. 10.30 Film TV. 11.00 Dla uczniów. 11.30 ,,Na arenie cyrku''. 12.15 Reportaż świąteczny. 13.[illegible] Finał pucharu ZSRR w piłce nożnej. ,,Torpedo'' (Moskwa) — ,,Pachtakor'' (Taszkient). 15.30 TV barwna. 16.45 ,,Klub wścibskich''. 18.45 ,,Czas''. 19.15 TV barwna. 20.15 ,,Mikołaj Bauman''. Film fabularny. 21.50 ,,Na dobranoc''.

**Sobota, 9 listopada**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla studentów. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 ,,Jubileusz''. 8.30 Reportaż TV. 9.00 ,,Wiedza''. 9.45 Śpiewa ludowy artysta ZSRR G. Ots. 10.45 Film dla dzieci. 11.15 ,,Almanach szachowy. 11.45 ,,Hasła nie trzeba''. Film fabularny. I seria. 12.55 Szkatułka muzyczna. 13.05 ,,Hasła nie trzeba''. Film. II seria. 14.30 TV barwna. 16.00 Klub Filmowy. 17.00 Koncert Chóru Rosyjskiego im. Piatnickiego. 18.00 ,,Czas''. 18.30 ,,Zawsze na posterunku''. 19.15 Film krótkometrażowy. 20.00 Wieczór Moskiewskiej Operetki. 21.15 ,,Tylko fakty''.

**Niedziela, 10 listopada**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla studentów. 7.00 Dziennik. 7.30 ,,Budzik''. 8.00 ,,Białe i czarne''. 8.30 ,,Generał Puszcza''. Film. 9.15 Film dla dzieci. 10.25 Koncert dla dzieci. 10.55 ,,Człowiek ziemi mojej''. 11.15 ,,Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1927''. 12.00 Puchar Europy w boksie. Transmisja z Polski. 13.30 ,,Nowe przygody Gustawa''. Film animowany dla dorosłych. 14.00 Turniej TV. 14.30 TV barwna. 16.00 ,,Kiosk muzyczny''. 16.30 Kalendarz TV. 17.00 Spektakl Moskiewskiego Teatru im. Gorkiego. 19.00 ,,Siedem dni''. 19.45 ,,50 lat BSRR''. 20.15 Koncert. 20.45 Dziennik.

# ГАЛАСЫ НАСТАЎНІКАЎ

На раённых канферэнцыях настаўнікі, апрача азнаямлення з тэзісамі на V з'езд ПАРП, дыскутавалі над спосабамі іх рэалізацыі ў канкрэтным класе і на канкрэтным прадмеце.

Наведаная намі раённая канферэнцыя пры пачатковай школе № 3 (беларускай) у Бельску была адной з іх. Пры аказіі хочацца сказаць, што педагогі пачатковай школы № 3 вельмі сур'ёзна падыйшлі да справы дыскусіі і паказалі вельмі многа цікавых прыкладаў, як канкрэтна рэалізаваць пастановы партыі. Пастараемся, хаця ў вялікім скарачэнні, перадаць галасы некаторых дыскутантаў.

**Вера Рышчук** — настаўніца школы № 3 у Бельску. Між іншым навучае гісторыю і грамадзянскае выхаванне. Свой голас асабліва сканцэнтравала на рэалізацыі тэмы ў VIII класе: «Кіраўнічая роля ПАРП як выразнікы працуючых мас». Рэалізацыя гэтай тэмы немагчыма пры дапамозе толькі падручніка. Настаўніца гаварыла, што перш за ўсё падзяліла вучняў у класе на паасобныя групы. Кожная з груп атрымала заданне да падбору матэрыялу. Працу груп накіравала ў дзве ўстановы: камітэт партыі і мясцовую ГС. Вучні шукалі адказу на пытанне: якія справы абмяркоўваюцца на партыйных сходах у ГС? У камітэце партыі даведаліся аб асноўных напрамках дзеяння ў галіне развіцця сельскай гаспадаркі, а асабліва заданняў для ГС. Заданне вучні выканалі вельмі добра. Калі дайшло да рэалізацыі метадычнай адзінкі, вучні самі вялі ўрок, а роля настаўніка заключалася выключна ў кіраванні выказваннямі вучняў. Своеасаблівай была дамашняя праца. Настаўніца сфармулявала яе так: «Як наша грамадскасць вітае V з'езд ПАРП». Апрача таго, вучні самі прынялі некалькі, можа сімвалічных, абавязацельстваў. Сам спосаб рэалізацыі тэмы на ўроку, як і дамашняя праца, здаецца, будуць багатай крыніцай для апавядання наступных урокаў.

**Міхаліна Альшэўская** — настаўніца школы № 3 у Бельску гаварыла аб спосабах рэалізацыі тэзіса, звязанага з тэмпам перамен у жыцці нашай краіны, на ўроках польскай мовы. Вучні знаёмяцца з чытанкай «Tu zaszła zmiana». На ўроку вучні апрацоўваюць план знаёмства з уласнай мясцовасцю. Хоць дзеці і адзначаюць цікаўнасцю, аказваецца, што не ўсё ведаюць аб сваёй мясцовасці. Дома, «на ўласную руку», збіраюць матэрыял ад бацькоў і знаёмых. На наступным уроку яны, відома, вельмі актыўныя. М. Альшэўская выказала таксама думку, што калі маем да рэалізацыі, напрыклад, чытанку аб калесніках, дык справа не толькі ў тым, каб паказаць, як гэта было калісь, але можа перш за ўсё паказаць старое і абавязкова наблізіць, паказаць актуальнае, сучаснае нашай краіны. У выхаваўчым працэсе неабходна звязаць выхаванне дзіцяці з яго ўласным асяроддзем.

Шмат цікавых прапаноў выказала **Надзя Цар** — настаўніца практычнатэхнічных заняткаў у V—VIII кл. (дзяўчат). Асноўнае заданне, якое сабе паставіла, гэта навучыць моладзь эстэтычна і дакладна выконваць працу, каб у будучыні іх праца магла быць заквашіфікавана як прыклад першай якасці. Гэта рэалізуе шляхам паказвання старанна выкананых прадметаў, захоўванне імення да такога выканання прац, а таксама спаборніцтвы ў групах. Істотнай справай з'яўляецца таксама сведамасць значэння экспанату для краіны. Для рэалізацыі ўспамянутага задання настаўніца будзе знаёміць дзяцей з прадпрыемствамі, дасягаючымі найлепшых прадукцыйных вынікаў, перадавікамі і рацыяналізатарамі.

Не хапіла б месца на тое, каб пераказаць цікавыя галасы ў дыскусіі на раённай канферэнцыі ў Бельску. Але не ў тым справа, каб аб усім пісаць. Вышэй прыведзенымі прыкладамі настаўніцкіх галасоў хацелася б даказаць, што заданні, пастаўленыя партыяй, разглядаюць яны вельмі канкрэтна. Гэта вельмі добра, гэта напаўняе аптымізмам.

**А. Карпюк**



Настаўнікі раённай канферэнцыі ў Бельску.

У ПОЛЬСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

# ПОЛЬСКА-САВЕЦКІЯ АДНОСІНЫ

Пяцьдзесят год таму назад, у выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі, у 1918 г. Польшча атрымала незалежнасць. На гэты ж час прыпадае ўтварэнне савецкіх нацыянальных рэспублік: Украінскай ССР (1918 г.) і Літоўска-Беларускай Савецкай рэспублікі (1919 г.). Гэтыя даты ўрачыста адзначаюцца ў нас і ў Савецкім Саюзе. Адным з важнейшых юбілейных мерапрыемстваў з'яўляецца навуковая сесія на тэму «Польска-украінска-літоўска-беларускія адносіны», якая адбылася 15 і 16 кастрычніка гэтага года ў памяшканні Польскай акадэміі навук (Палац Сташыца) у Варшаве.

Арганізатарам сесіі быў Інстытут гісторыі польска-савецкіх адносін Польскай акадэміі навук. У сесіі прымалі ўдзел супрацоўнікі гістарычных інстытутаў ПАН і госці з беларускай, літоўскай і украінскай акадэмій навук.

Ад імя саkratара ПАН удзельнікаў сесіі прывітаў сакратар Аддзела грамадскіх навук ПАН, кіраўнік Інстытута гісторыі польска-савецкіх адносін Т. Цесляк.

Работа сесіі пачалася ад даклада аб перыядызацыі польска-савецкіх адносін на працягу 50 год (1917—1967). Затым праца сесіі праходзіла ў двух секцыях: польска-літоўска-беларускай і польска-украінскай.

Удзельнікі польска-літоўска-беларускай секцыі выслухалі 7 дакладаў. Беларускай тэматыкі датычылі наступныя даклады: «Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя і ўтварэнне беларускай дзяржавы» акадэміка Н. Каменскай (Мінск), «Уплыў Кастрычніцкай рэвалюцыі на фарміраванне беларускай савецкай дзяржавы» др А. Дэругі (Варшава). Праблеме польска-літоўска-беларускіх адносін былі прысвечаны даклады дац. В. Гастынскай (Варшава) «Польская палітыка ў адносінах да Літоўска-Беларускай Савецкай рэспублікі (I — VIII 1919 г.)» і палк. М. Юхневіча (Варшава) «Удзел палякаў у савецкім супраціўленчым руху на Беларусі і Літве ў 1941—1944 г.г.»

Тэматыкай польска-літоўскіх адносін займаліся наступныя даклады: «СССР і польска-літоўскія адносіны ў 1920—1928 гадах» др Ст. Лапатнюка (Варшава), «Пытанні ўзаемаадносін паміж Літвой і Польшчай у святле барацьбы працоўных Літвы супраць буржуазна-фашысцкай дыктатуры ў 1933—1939 г.г.» акадэміка І. Жыўгжды (Вільнюс) і «Польска-літоўскія адносіны ў 1934—1938 гг». др П. Ласоўскага (Варшава).

Пасля дакладаў была цікавая дыскусія. Гісторыкі выказалі свае погляды на закранутыя ў дакладах пытанні, дапаўнялі выказванні новымі фактамі.

Пасля заканчэння прац у секцыях адбылося агульнае пленарнае пасяджэнне, на якім былі выслуханы справаздачы з прац у секцыях і падагульняючае слова прафесара Цесляка, які падкрэсліў, што сесія выявіла тое, што зроблена ў галіне вывучэння адносін Польшчы з яе бліжэйшымі суседзямі і тое, што яшчэ трэба зрабіць, каб не заставалася белых плям, не вытлумачаных праблем. Т. Цесляк выказаў надзею, што асабістыя кантакты польскіх і савецкіх вучоных, рабочыя сесіі могуць вельмі дапамагчы ў вырашэнні многіх гістарычных праблем.

**Марыя Чурак**



Беласток. У цэнтры ўверсе Дом партыі. Фота: С. Панкоўскі

ПРА ЗЯМЛЮ, ШТО НАТХНЯЛА МІЦКЕВІЧА




Пад такім загалоўкам нядаўна выдавецтва «Беларусь» выпусціла альбом пра мясціны, звязаныя з дзяцінствам і юнацтвам Адама Міцкевіча. Аўтары альбома — вядомыя беларускія пісьменнікі Янка Брыль (тэкст) і Уладзімір Калеснік (здымкі). Тэкст на беларускай і польскай мовах. Альбом зроблен з вялікай любоўю. Яна выступае і ў дасканалых здымках (аўтар іх аказаўся не менш здольным майстрам фотааб'ектыва, чым пяра) і ў сардэчных радках тэксту.

Альбом адкрываецца міцкевічавымі радкамі пра Навагрудчыну:

Маленства край! Ты з намі
да сканання —
Чысты, святы, як першае каханне.

«Гаворачы пра Навагрудчыну, — чытаем ва ўступе, — Адам Міцкевіч думаў не толькі пра той куток, дзе ён нарадзіўся, дзе прайшлі яго маленства і юнацтва, ён думаў пра Беларусь, па ёй тужыў у сваіх блуканнях на чужыне...

Наш няласкавы лёс судзіў і яму называць Беларусь афіцыйна, на мове ўладароў — Літвой. Аднак жа ніхто з вялікіх не сказаў пра родную мову прыгнечанага, абяздоленага беларуса так, як сказаў гэта ён, Міцкевіч, з еўрапейскай трыбуны назваўшы яе найбагацейшай і найчысцейшай з усходнеславянскіх моў, азначанай узнёслай прастатою.

А колькі сэрца аддаў ён нашай прыродзе, нашым палям і пушчанскім нетрам, ціхай і яснай Свіцязі, быстраму Нёману, нашаму небу — усходам і заходам сонца, пяшчотнасці белых аблокаў, цемры і гневу навальніц, высокай мудрасці зорных начэй! Ад першых юначых балад і рамансаў да мужнай, велічнай плыні «Пана Тадэвуша» — усюды жыве яно, хараство беларускай прыроды, непераймальна прыгожа і проста заключанае ў звонкае польскае слова.

Беларусь ганарыцца Міцкевічам. Яна чытае яго і ў арыгінале, на мове братняга народа, дзе ён гучыць, відома, найлепш, яна чытае яго і ў перакладзе на мову, якую ён так любіў і цаніў, на мову, што некалькі дзесяцігоддзяў пазней чароўна загучыць словамі Купалы, Коласа, Багдановіча...»

Варта, каб гэтая прыгожая кніжка знайшлася ў нашых кнігарнях, бібліятэках, школах. (гв)

 

## 50-ГОДДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

# АДНАЎЛЕННЕ ДЗЯРЖАВЫ

**1918** год быў апошнім годам першай сусветнай вайны. Трагічны баланс складаў 10 мільёнаў забітых і каля 20 мільёнаў параненых. Гэтая вайна разбурыла імперыю цароў, Прускае каралеўства і Аўстра-Венгерскую манархію. Голад і галеча, выкліканыя вайной, наймацней адчуў рабочы клас. У рабочым класе ўзрастала незадавальненне. Кульмінацыйнага пункту пралетарская рэвалюцыя дасягнула ў Германіі і Расіі. У выніку перамогі рэвалюцыі на месца даўняга прыгнятальніка народаў — царскай Расіі — узнікла першая ў свеце сацыялістычная дзяржава — Савецкі Саюз.

1918 год прынёс жаданую свабоду польскаму народу. Атрыманню незалежнасці і аднаўленню дзяржавы садзейнічала некалькі фактараў. У першую чаргу трэба назваць паставу самога народа, які, нягледзячы на больш як 100-гадовую няволю, прыгнёт, тэрор і дэнацыяналізацыю, захаваў уласную мову, звычаі і традыцыі. Нацыянальна-патрыятычныя сілы існавалі ў польскай вёсцы і ў горадзе. Доказам гэтага былі народныя паўстанні (лістападавае і студзеньскае). А калі прыйшоў час узяць у рукі зброю і змагацца за незалежнасць Польшчы, змагаліся ўсе.

Змагаліся за яе палякі ў радах Кастрычніцкай рэвалюцыі і тыя, што польскую заходнюю граніцу праводзілі крывёю пралітай у шлёнскіх і ў вялікапольскім паўстаннях. Слаўную традыцыю пакінулі народу жыхары Варшавы, якія раззбройвалі немцаў на вуліцах свайго горада, і сяляне, якія змагаліся за Польшчу на шырокіх палях даўняй Галіцыі.

Прынцыпіяльнае значэнне для атрымання незалежнасці мела перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі. Дзяржава Леніна, якая ўзнікла на развалінах царскай Расіі, перакрэсліла акты падзелаў. Маладая Краіна Саветаў адкрыта, без ніякіх умоў і засцярог высунула справу незалежнасці Польшчы. У адным з асноўных дакументаў, выдадзеных яшчэ ў агні рэвалюцыі, пішацца: «Усе дагаворы і акты, заключаныя ўрадам былой Расійскай імперыі з урадам Прускага каралеўства і Аўстра-Венгерскай манархіі, якія датычаць падзелаў Польшчы, у сувязі з іх супярэчнасцю з прынцыпам самаакрэслення народаў і рэвалюцыйным праўным пачуццём рускага народа, які прызнаў бясспрэчнае права польскага народа на незалежнасць і адзінства, адмяняюцца беззваротна».

Такім чынам Савецкі Саюз не толькі прызнаваў свабоду польскаму народу, але праблему Польшчы вынес на шырокі міжнародны форум.

Галоўнае і прынцыпіяльнае значэнне для атрымання незалежнасці мелі ачагі барацьбы за незалежнасць краіны, а сярод іх тыя, што дзейнічалі ў Каралеўстве. На польскіх тэрыторыях стварылася як бы некалькі цэнтраў улады. 28 кастрычніка 1918 года ў Кракаве была створана Польская ліквідацыйная камісія, дзе палякі забіралі ўладу ад аўстрыйцаў, займалі ўстановы і стваралі польскую адміністрацыю. У Цешыне арганізавалася Польская Рада Нарадовая, якая ўзгадняла з чэшскім Народным Выбарам тэрытарыяльны падзел Шлёнска Цешынскага. У Каралеўстве 6 лістапада 1918 г. арганізаваўся ў Любліне Часовы Народны Урад на чале з сацыялістам Ігнатам Дашынскім. Восенню 1918 г. у Познані арганізаваўся Нацыянальны Камісарыят, які знаходзіўся пад уздзеяннем Нацыянальнай Дэмакратыі на чале з Войцехам Карфантым. На эміграцыі, у Парыжы, на карысць Польшчы вёў шырокую палітычную дзейнасць Нацыянальны камітэт Польшчы. Ён арганізаваўся па ініцыятыве Рамана Дмоўскага, які ім асабіста кіраваў. Імкненнем Дмоўскага было прадстаўляць краіну за яе межамі. Беручы пад увагу, што сядзібай камітэта быў Парыж, дзе сыходзіліся ніткі міжнароднай палітыкі і дзе была сядзіба мірнай канферэнцыі, Дмоўскі імкнуўся прадстаўляць Польшчу на міжнародным форуме.

Такая эластычная дзейнасць польскіх патрыятычных сіл дазваляе выставіць тэзіс, што аднаўленне незалежнасці польскай дзяржавы ў 1918 годзе было творам самога польскага народа, якому барацьбу за незалежнасць аблегчыла становішча, якое стварылася дзякуючы перамозе Кастрычніцкай рэвалюцыі. Не было ў 1918 г. у Польшчы палітычнай групоўкі, якая б адмаўлялася ад незалежнасці краіны. Яны мелі розныя палітычныя арыентыроўкі, але адзін погляд — Польшча павінна быць незалежнай.

Стварэнне незалежнай дзяржавы адбывалася ў перыяд актывізацыі рабочага класа, які дабіваўся рэвалюцыйных перамен. Ужо ў той час было вядома, што ў Польшчы ідзе да ўмацавання буржуазна-дэмакратычнай улады. Каб аслабіць рэвалюцыйныя настроі, 7 лістапада 1918 года быў выдадзены маніфест, у якім было шэраг прагрэсіўных элементаў, але ў канчатковым выніку ён уводзіў і ўзаконьваў у Польшчы дэмакратычна-буржуазныя свабоды, а не рабоча-сялянскую ўладу. Буржуазію непакоілі рабочыя саветы, якія ўзнікалі ў большых гарадах і прамысловых раёнах. На чале Саветаў рабочых дэлегатаў стала СДКПіЛ, якая трошкі пазней, пасля спалучэння з ППС-лявіцай складала ядро Камуністычнай рабочай партыі Польшчы. Стварэнне КРПП азначала аб'яднанне польскага рабочага руху і ўмацненне рэвалюцыйных сіл.

На пераломе дваццатых гадоў у польскім камуністычным руху наступалі глыбокія перамены. Нягледзячы на «памылкі люксембургізму» і пэўныя фальшывыя канцэпцыі па пытанні нацыянальнай барацьбы польскія камуністы сталі ў шарэгах тых, што змагаліся за незалежную Польшчу. Камуністычная партыя Польшчы і ППС-лявіца былі фактычнымі правадырамі польскага рабочага класа. Яны стаялі на пазіцыі, што Польшча павінна быць незалежнай дзяржавай, але польскія нацыянальныя інтарэсы бачылі ў спалучэнні з класавай міжнароднай барацьбой рабочага класа за сацыялістычную рэвалюцыю.

Л. М.



У рабочым цэху.

Фота: В. Гжэгорчык

# РУНЬ З'ЕЗДА

(Працяг са стар. 1)

новы, пад якія ўжо вызначаны пляцы: агранамоўка, база сельскагаспадарчага гуртка, дом культуры разам з рамізай і бібліятэкай, крама, пошта, прадшколле, злеўня малака, лазня, памяшканне на перахоўванне мінеральных угнаенняў. Вызначана таксама 6 пляцаў пад рамесніцкія варштаты.

Гэтых будынкаў, гэтых устаноў яшчэ няма. Але ўсе ведаюць, што яны будуць, што планы будуць рэалізавацца. Усе таксама памятаюць, што яшчэ зусім нядаўна не было ў гэтых вёсках электрычнага святла, што не было тэлефонаў, што вёскі не былі радыёфікаваныя, што былі вялікія цяжкасці з даездам у Саколку і Беласток, што не было дастаткова мінеральных угнаенняў і сельскагаспадарчых машын, так сама, як і не было школьных памяшканняў. Усё гэта паступова ўваходзіла ў план і планы рэалізаваліся. Апошнім доказам была рэалізацыя планаў камасацыі на Сакольшчыне, якая каштавала дзяржаве шмат мільёнаў злотых.

Пройдзе нейкі час, і зноў вёскі нашыя ўзбагацяцца новымі аб'ектамі, зноў узрасце іх культурны і матэрыяльны ўзровень.

Канец цераспалосіцы азначае пачатак сапраўднай механізацыі сельскагаспадарчай працы, пачатак багатых ураджаяў на палях. На сотнях гектараў зямлі зазелянее буйная рунь жыта. З'ездаўская збожжавая рунь дасць напэўна багаты ўраджай.

**Міхась Хмялеўскі**



асаблівым абаяннем яго летніх белых начэй. Часта ўстаюць у памяці словы з пушкінскага «Медного всадника»: «...Люблю тебя, Петра творенье...»

У Гродне я жыў ад вясны 1919 года да канца ліпеня 1945 г. (у тэты перыяд уваходзяць і гады гітлераўскай акупацыі). Пасля 22 гадоў адсутнасці я зноў убачыў горад над Нёманам, калі адведаў сваякоў у верасні 1967 года. Горад памаладзеў, папрыгажэў і разроcся.

З даўнейшых успамінаў аб Гродне захавалася трохі ў памяці маё спатканне з Валошыным. Было гэта, здаецца, у палове дваццатых гадоў. Я быў тады сакратаром прафсаюзнай арганізацыі. У адну з летніх нядзель пасля поўдня я быў у памяшканні прафсаюзнай арганізацыі, чакаючы на агульны сход членаў прафсаюза чыгуначнікаў. У той час увайшоў Валошын і прадставіўся паслом у Сейм. Аб сходзе ён даведаўся з аб'явы. Арганізацыя прафсаюза чыгуначнікаў мясцілася тады на другім паверсе вуглавога будынка (вугал тадышняй вул. Кірховай і Ажэшковай) насупраць царквы. Валошын выразіў ахвоту быць на сходзе. Чакаючы прыходу членаў арганізацыі, мы з ім вялі гутарку. Размова была сардэчнай і беспасрэднай. Хутка пачалі збірацца ўдзельнікі сходу і члены праўлення. Прыйшоў і прэзэс Антушэвіч — фельчар амбулаторыі чыгуначнікаў, якому я прадставіў пасла. Пасля адкрыцця сходу слова далі Валошыну. Ён выступаў па-беларуску. Не магу ўжо прывесці дакладна яго прамовы, бо не памятаю. Засталося ў памяці толькі тое (што, між іншым, ён падкрэсліў моцна і крытычна), што польскі ўрад трактуе асвету як пасынка. Аб гэтым сведчыць сума 5 мільёнаў злотых, прызначаная на асвету. «Пяць мільёнаў — гэта недарэчнасць, гэта кпіны...» Прамова пасла зрабіла на прысутных вялікае ўражанне і была ўзнагароджана апладысментамі. Пасля выступлення Валошын пакінуў сход. Я правёў яго да выхаду.

У канцы кастрычніка 1939 года я быў удзельнікам Народнага Сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку як адзін з дванаццаці дэлегатаў з Гродна. Памятаю ўзвышаны, энтузіязны настрой сабраных у час трохдзённай працы ў будынку тэатра. Тады надарылася аказія мне гаварыць з Піліпам Пестраком — беларускім паэтам, бо нашыя месцы ў зале пасяджэння былі побач.

Не ведалі мы яшчэ тады, што давядзецца перажыць цяжкія і панурыя гады гітлераўскай акупацыі. На шчасце, гады тыя — гэта ўжо мінулае і, спадзяемся непаўторнае.

Прашу прабачэння за гэты, трохі наіўны і фрагментарычны ліст, але пасля яго напісання адчуваю сябе так, быццам падзяліўся думкамі з кімсьці вельмі мне блізкім.

**Ян Саўко**

Шчэцінэк

# ПАРТЫІ ПІСЬМО АД СЕЛЯНІНА

(Працяг са стар. 1)

сельскагаспадарчыя гурткі Беластоцкага ваяводства маюць каля 6 тысяч сеўнікаў, звыш 2600 касілак і снопавязалак, паўтары тысячы бульбяных капалак, амаль 2300 малатарняў-агрэгатаў. Усе гэтыя машыны яшчэ пазней з'явіліся ў маёй вёсцы ад гэтага чырвоненькага «Зэтара». А колькасць самых гурткоў за 4 апошнія гады аж падвоілася. Няма вёскі, каб яе жыхары не карысталіся гуртkоўскімі паслугамі. Лёзгат і гоман сельскагаспадарчых машын нясецца зараз праз нашыя палі, як гул аўтамашын па гарадскіх вуліцах. Адно бяда, што з-за яго не чуваць ужо дзявочых, сардэчных песняў, якія калісьці над даспелымі нівамі пераліваліся ад краю да краю поля.

Не пара аднак адстайваць песняў, калі трэба змагацца за хлеб, за ўраджай.

Нейкі тыдзень таму назад сустрэў я ў цягніку аднаго пазнаніна. Хвастаўся ён, што ў іх сяляне так шчодра ўгнойваюць свае палі, што на адзін гектар выпадае далёка больш за 100 кілаграмаў хімічна чыстага рэчыва, што бываюць у іх выпадкі, калі ўраджай збожжа дасягае 30 цэнтнераў з аднаго гектара.

Што ж, магу толькі зайздросціць ім. Мы, на жаль, такімі вынікамі пахваліцца не можам. Самы высокі пасляваенны ўраджай, якога мы ўсе разам дабіліся на нашай слабенькай беластоцкай зямлі, гэта ўраджай сёлеташні: васемнаццаць з лішнім цэнтнераў з аднаго гектара. Палічыўшы ў нас колькасць угнаенняў, дык выпадзе, што беластоцкія сяляне абышліся ўсяго ледзь паўсотняй кілаграмаў хімічна чыстага рэчыва. Так, ведаю, што ўсяго гэтага вельмі мала. Аднак трэба вам ведаць, паважаныя таварышы дэлегаты, ад чаго, з якога ўзроўню мы пачыналі. У 1963 годзе збожжа дало нам ўраджай па няцэлых 15 цэнтнераў з кожнага гектара. Бачыце, што мы дабіліся прыбытку больш як па 3 цэнтнеры з кожнага гектара. Такім чынам дзяржава атрымала ад нас, беластоцкіх хлеbabаў, на 80 тысяч тон збожжа больш, чым у 1963 годзе. А прымяненне штучных угнаенняў за гэты ж самы перыяд часу ў нас амаль падвоілася.

Пачакайце, і мы выйдзем у перадавыя. Нашыя ваяводскія ўлады маюць ужо адносна гэтага дакладна распрацаваны план. Найперш пачалі ад меліярацыі. За мінулыя чатыры гады ні адно ваяводства не можа пахваліцца лепшымі ад нашых дасягненнямі ў гэтай галіне. За меліярацыяй, а дакладней — разам з ёю, як дзеці-блізнюкі, пайшла камасацыя сялянскіх палосак. І тут вопыт гаспадароў з Гайнаўскага павета стаў асновай дзяржаўнага акта — сеймавай пастановы аб так званай грамадскай камасацыі зямлі. Гэта доўгапланавая работа. Зацягнецца яна ў нас аж да 1980 года. Раней не зможам.

Пра многае хацелася б вам яшчэ расказаць. Хапя б пра ПГР-ы. Не так даўно нашымі беластоцкімі ПГР-амі бацькі палохалі дзяцей, калі тыя гультайнічалі і не хацелі вучыцца. І я свайму бамбізе часта паўтараў:

— Вучыся, гультай, бо ў ПГР кароў пойдзеш пасвіць.

Цяпер ведаю, што памыляўся. Бо шмат чаго змянілася там за міжз'ездаўскі перыяд. Ведаю, дачка суседа ў адным ПГР-ы аграномам працуе. Па ўсіх паказальніках яны, на жаль, лепшыя ад нас. Аж зайздрасць бярэ, калі суседка-аграном пачне расказваць пра іх гаспадарку. Хай ім на здароўе!

Успамянуў бы яшчэ і пра электрыфікацыю нашых вёсак і пра вучобу нашых дзяцей... Аб тым вы аднак і самі ведаеце, дык і часу шкада.

Вы, паважаныя дэлегаты, — прадстаўнікі партыі. Дык ад майго імя, ад імя ўсіх беластоцкіх сялян падзякуйце ёй за яе намаганні і прыхільнасць да нас ды добра мяркуйце, каб усім нам у нашай краіне жылося яшчэ лепш.

З пашанай да Вас —
**Віктар Максімыч**



 

У свеце навукі

Здароўе чалавека, яго працаздольнасць у многім залежаць ад актыўнасці Сонца і, значыцца, ад стану магнітнага поля Зямлі. Як высветлілі савецкія вучоныя, асабліва хутка дзейнічаюць магнітныя буры і адхіленні на Сонцы на так званых электрамабільных людзей, значна менш на такі тып людзей, які назвалі «прамежкавым», і вельмі мала на электрастабільны тып.

Перш чым зрабіць такія вывады, савецкія вучоныя правялі вялікую даследчую работу.

Пры адхіленнях магнітнага поля Зямлі павялічваецца колькасць няшчасных выпадкаў і аварый на вытворчасці і транспарце. З гэтай жа прычынай звязана і змяненне крывянога ціску, колькасць смерцяў ад інфаркта міякарда, згусанне крыві, вастрыня пячэння апендыцыту.

Былі праведзены і такія доследы. Сабак забівалі электрычным токам. Пасля клінічнай смерці, якая працягвалася больш 15 мінут, іх ажыўлялі. Тыя сабакі, у якіх смяротная электратраўма і перыяд пасля ажыўлення супадалі са спакойным станам магнітнага поля Зямлі, як правіла, выжывалі. Ажыўленне жывёлін было няўдалае, калі доследы праводзіўся ў перыяд геамагнітных бур і адхіленняў.

Некаторыя людзі здольны вельмі

# Біялагічнае прагназіраванне

тонка прадчуваць надыход змяненняў у дзейнасці Сонца. Адна з электрычных характарыстык іх скуры змяняецца за некалькі дзён да таго, як аб гэтых змяненнях даведваюцца геафізічныя прыборы. Існуюць таксама бактэрыі, якія «даведваюцца» нават аб глыбінных працэсах у Сонцы. Толькі праз пяць дзён, калі гэтыя працэсы выклікаюць успышкі на паверхні, іх рэгіструюць астрафізічныя прыборы. Усё гэта можна выкарыстаць для біялагічнага прагназіравання паводзін Сонца і, значыцца, для прыняцця своечасовых мер, якія нейтралізуюць шкодны ўплыў на здароўе людзей і некаторых тэхнічных сістэм. Гэта не памылка. Аказалася, што змяненні на Сонцы часта парушаюць радыё, тэлефонную і тэлеграфную сувязь. Прычым часта не толькі парушаюць, але поўнасцю перапыняюць. Так, 15—16 чэрвеня 1959 года, калі на Сонцы адбываліся грандыёзныя храмасферныя ўспышкі, паміж Еўропай і Амерыкай поўнасцю спынілася радыёсувязь і парушылася тэлеграфная сувязь. Ад адхіленняў на Сонцы залежаць некаторыя фізічныя і хімічныя працэсы. Парушаецца, напрыклад, складаны, дакладна выверааны, аўтаматызаваны і строга кантралюемы працэс вытворчасці штучнага шоўку.

(АДН)

## Кулінарыя

### ЯЙКІ З ГРЫБАМІ, ЗАПЕЧАНЫЯ

Зварыце ўкрутую 5—6 яек. Ачысціўшы, разрэжце ўздоўж на дзве палавінкі. Чайнай лыжачкай выньце жаўткі і перамяшайце з загадзя падрыхтаванымі грыбамі. Свежыя або сушаныя (вараныя) грыбы дробна пасячыце і падсмажце з рэпчатай цыбуляй, старанна перамяшайце з жаўткамі. Нафаршыраваныя яйкі пакладзіце на патэльню або ў вогнетрывалую каструлю, змазаўшы яе перад гэтым смятанай, зверху заліце смятанай. Падрумяньце гэтую страву ў духоўцы і падавайце на стол у той жа самай пасудзіне.

## Самаабслуга

### ЛЁГКІ СПОСАБ МЫЦЦЯ БЯЛІЗНЫ

Намачыце бялізну (белую асобна ад каляровай) у ледзь цёплай вадзе. Натрыце кавалак мыла на бурачнай тарцы, пакладзіце ў каструлю, заліце двума літрамі вады і пастаўце на агонь. Калі вада закіпіць, дадайце дзве сталовыя лыжкі ачышчанага шкіпінару, дайце вадкасці астыць, заліце ёю бялізну і пакіньце: белую — на 8 гадзін, каляровую — на 5—6 гадзін. Прапалашчыце бялізну ў некалькіх водах, злёгку адціраючы. Бялізна становіцца ідэальна чыстая і свежая пры затраце мінімальных намаганняў. Асабліва практычны гэты спосаб пры мыцці коўдраў, дываноў і іншых вялікіх рэчаў.



У павільёне геадэзічнай станцыі Акадэміі навук Беларускай ССР вядзецца бесперапынная рэгістрацыя змяненняў зямных токаў.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Востраў... рухаецца

Геолагі яшчэ спрачаюцца, рухаюцца ці не мацерыкі. Затое зусім нечакана выявілася, што рухаецца... востраў.

Дакладныя геадэзійныя вымярэнні, выкананыя з дапамогай штучных спадарожнікаў Зямлі, дапамаглі ўстанавіць, што маленькі субантарктычны астравок Кэмпбел паварочваецца ў напрамку руху гадзіннікавай стрэлкі са скорасцю адзін абарот у... 45.888 гадоў. Акрамя таго, выявілася, што ён рухаецца і на паўночны ўсход са скорасцю 0.00001142 вузла. Да бліжэйшай сушы ў гэты бок — да ўзбярэжжа Гватэмалы, — расказвае часопіс «Знание — сила», — яму «засталося» праехаць каля 5.000 міль, а вузел — гэта міля ў гадзіну. Так што аматары могуць падлічыць, праз які час адбудзецца сутыкненне.

Ва ўсякім выпадку, вучоныя палічылі сваім абавязкам паведаміць аб усім гэтым уладам Новай Зеландыі, якой належыць востраў, для прыняцця адпаведных мер.

Дары прыроды — медыцыне

## АМЯЛА БЕЛАЯ

Расліна-паразіт і адначасова, як ні дзіўна, каштоўная расліна. Паразіт, бо расце паўшарападобнымі кустамі на ліставых дрэвах. Карысная — сцяблі-ны і лісці амялы выкарыстоўваюць у лекавых мэтах. Збіраюць сыравіну позняй восенню ці ў пачатку зімы. Выкарыстоўваюць свежыя і сушаныя лісты. Хімічны састаў амялы складаны. Яна ўтрымоўвае амінакіслоты і цукар, алеанавую і урсолавую кіслату, халін, спірты, вітамін С, карацін, смалістыя рэчывы і інш.

У медыцыне адвар з маладых галінак амялы ўжываюць пры гіпертаніі і як танізуючы сродак пры атаміі кішэчніка. Вадкі экстракт з маладых лістоў — пры лёгачных і насавых кровацёках. Настойка са свежых лістоў амялы ўжываецца для лячэння розных відаў неўральгіі.

Шырока ўжываецца амяла і ў народнай медыцыне. Адвар амялы, знятай з дуба, граба, сасны, ужываюць пры хваробах сэрца, астме, рэўматызме, нервовых захворваннях. Адвар амялы з бярозы п'юць пры павышаным крывяным ціску, галаўным болі, эпілепсіі.

## Ці ведаеце, што...

...амаль большая палова элементаў з табліцы Мендзялеева ўтрымліваецца ў акіянскай вадзе. Калі б моры і акіяны раптам выпарыліся, то ў сухім асадку засталіся б 188 мільёнаў тон срэбра, 15 мільёнаў тон золата і 20 тысяч тон радыю.

## Чвэрць стагоддзя назад




# НА ЗАХАДЗЕ ПУШЧЫ

Аддзяліўшыся ад брыгады Янкоўскага, прадзіраліся мы праз пушчу да яе заходніх берагоў. Ішлі мы толькі ноччу. Ужо мы ведалі, што на лясных прасеках немцы замаскавалі свае назіральныя пункты і сочаць кожны рух у пушчы. Не хацелі мы рызыкаваць, захоўвалі максімальную асцярожнасць, пазбягалі дарог, ішлі напрасткі. Хто хадзіў цёмнай ноччу па лесе, той ведае, што гэта значыць. Да таго выбіліся мы з апошніх сіл, кончыўся запас харчоў. У гэтых умовах за ноч не маглі мы прайсці больш пяці-шасці кіламетраў.

Урэшце выйшлі мы з пушчы. Трапілі на папялішчы спаленай вёскі. Адступілі ў лес, трэба было добра адпачыць, набраць сіл да новага скачка. Развіднялася. Неба было закрыта цяжкімі цёмнымі хмарамі. Размясціліся мы ў густой, маладой хвойне. Ляглі спаць. Мы ведалі, што немцы ноччу не ішлі па нашых слядах: яны выгадныя. Накрыўшыся плашч-палаткамі заснулі мы каменным сном.

Сніцца мне: акружаюць нас немцы. Поўна іх. Хачу зварухнуцца, схапіць аўтамат, але не магу рушыць ні рукой, ні нагой. Хачу крычаць, разбудзіць таварышаў, але не магу выдабыць голасу з грудзей. Гляджу: выскаквае з карчоў вялікая гестапаўская аўчарка, хапае мяне за горла, душыць... Буджуся. Сабакі няма, але, сапраўды, няма чым дыхаць. Адчуваю, што цэлы мой бок у вадзе. Намагаюся скінуць плашч-палатку, але нешта яе трымае. Пхаю са ўсёй сілы — і на галаву валіцца снег. Будзяцца сябры: над дваццацісантыметравым слоем мокрага снегу вырастаюць чатыры галовы. Забаўна. Смяемся.

— Ну і пажартавала над намі зіма, маглі падушыцца, — гаворыць старшы лейтэнант Саша Чаўрыкаў.

— Жарт і то святочны, — адказвае Новікаў. — Сёння ж сёмага лістапада, гадавіна Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. У Маскве напэўна парад, а мы, як анемоны, выраслі з-пад снегу.

Выбраліся са снежнага логава. Кожны з нас быў мокры, як жаба. Неба выпагадзілася, ніводнай хмарынкі, грэе сонца, каля плюс пяці градусаў. Мокры снег вялікімі латамі падае з дрэў на зямлю, на галінках ёлак мільёны кропляў вады. Блішчаць яны ў сонечным святле і безупынна падаюць на нас.

— Каб толькі хутчэй снег растаяў, — сказаў я. — Інакш фрыцы высачаць нас, бы дзікаў.

— Да вечара не застанецца па ім і следу, — адказаў Нячаеў. — Цяпер найважнейшае крыху абсохнуць і адзначыць гадавіну.

— Адзначыць, але чым? — заўважыў я. — Спірт то мы яшчэ маем, сала таксама, але хлеба нічагуські.

— У мяне ёсць некалькі сухароў і бляшанка згушчанага малака, — сказаў Чаўрыкаў.

Усё навокал было мокрае. Ледзь расpалілі мы маленькі касцёр. Зрабілі яго пад старой ёлкай, каб дым разыходзіўся па галінах. Са снегу падрыхтавалі вару. Выпілі па кроплі спірту, закусілі салам, з'елі па палавіне сухара. Замест чаю пілі вар, закрашаны салодкім згушчаным малаком. Здавалася нам, што п'ем самы цудоўны ў свеце напітак.

На працягу дня снег сапраўды знік. Засталіся па ім толькі лужы. Перад захадам сонца зноў падышлі мы да папялішчаў. Расло на ім завялае пустазелле і тырчалі там-сям закопчаныя коміны.

— Што гэта за вёска? — пытаўся Чаўрыкаў. — Каб удалося нам удакладніць яе назву, ведалі б, дзе мы.

— Ба, каб гэта можна было ўдакладніць!

Шчасце аднак нам спрыяла. За былой вёскай на скрыжаванні напароліся мы на павалены дарожны слуп. Пры ім была палінялая таблічка. З цяжкасцю прачыталі напіс: Буды Пашуцкія. Значыць трапілі добра. Перад намі была рака Лясная, па яе абодвух баках залітыя вадою балоты. За ракою вёска Пашукі. Злучае яе з Будамі Пашуцкімі доўгі драўляны мост.

Нягледзячы на тое, што пры гэтым мосце немцы часта наладжвалі засады, удалося нам прайсці праз яго шчасліва.

9 лістапада 1943 года на світанні спыніліся мы ў нейкіх чатырох кіламетрах ад вёскі Дзмітравічы. На днёўкі выбіралі мы заўсёды такія месцы, куды можна было лёгка трапіць. Гэта на выпадак сутычкі з немцамі. Наперад мы дагаварыліся, што калі б нас немцы разагналі, збірацца будзем на месца апошняй днёўкі.

На схіле дня рушылі мы лесам уздоўж гасцінца ў напрамку Дзмітравіч. Перад самым захадам сонца выйшлі мы на бераг лесу. Перад намі адкрытая балоцістая прастора, зарослая карчамі віхліны. Далей нейкая рэчка, на ёй мост, за ім некалькі сялянскіх будынкаў. Праз мост нельга ісці, пакуль не сцямнее. Селі мы ў карчах, чакаем. Калі немцы прыдуць

# ТРЫБУНА чытачоў

## ДЗЯДЗЬКА КІРЫЛ



Дзядзька Кірыл Кучко мае 78 гадоў і жыве зараз у вёсцы Новае Ляўкова (Гайнаўскі павет). Працуе на гаспадарцы. Сыны яго даўно пажаніліся і здабылі прафесію.

У мінулым годзе быў адзначаны Кірыл Кучко адзнакай 1000-годдзя Польскай Дзяржавы.

У 1911 годзе, пайшоў у армію. Калі была арганізавана Чырвоная Армія, Кірыл Кучко з'яўляецца яе салдатам. У Мінску ўключаецца ён у фармаванне новых падраздзяленняў Чырвонай Арміі. Пасля як камендант ваенна-харчавога пункта на станцыі Графская забяспечвае кавалерыю і пехацінцаў Чырвонай Арміі правіянтам. Пазней ваеннае камандванне загадвае пераехаць яму ў Маскву для фарміравання новых атрадаў конніцы. Тут Кучко захварэў тыфам, і так закончылася яго вайсковая дзейнасць і кар'ера. Настаў 1919 год. Пасля хваробы Кірыл Кучко вяртаецца ў Новаберазова, на родную зямлю. Працуе на гаспадарцы.

У гады народнай улады займае ён адказныя пасады ў розных установах Гайнаўкі, а пасля Нараўкі.

Дзядзька Кірыл часта расказвае малодшаму пакаленню аб рэвалюцыйных падзеях у Расіі, аб сваім удзеле ў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Успамінае сваіх баявых сяброў, шчырых і адважных. Многія з іх час ад часу адклікаюцца лістамі.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## ТЭЗІСЫ ЦК І НАСТАЎНІКІ

18.Х. над тэзісамі на V з'езд ПАРП у Фальварках Тыльвіцкіх дыскутавалі настаўнікі канферэнцыйнага раёна Заблудаў. Найбольш увагі было прысвечана справам асветы і выхаванню падрастаючага пакалення. З кожнае школы настаўнікі падрыхтавалі даклады аб тым, як тэзісы ЦК ПАРП ажыццяўляюцца канкрэтнымі пачынаннямі ў паасобных асяроддзях.

**М. К.**
Фальваркі Тыльвіцкія

## БЮДЖЭТ ГРАМАДЫ

Мілейчыцкая грамада (Сямяціцкі павет) у 1965 годзе мела свой бюджэт на суму 887 тыс. зл. У 1968 годзе сума бюджэта ўзрасла да 1.450 тыс. зл.

З кожным годам натлядаецца ўзрост колькасці гаспадароў, якія ў 100% аплачваюць падаткі. Але ёсць шмат і такіх гаспадароў, якія маюць вялікую задоўжанасць у аплочванні дзяржаве гаспадарскіх належнасцей. У грамадзе ёсць 35 гаспадарак, вельмі моцна эканамічна адсталых. 7 з іх атрымала дзяржаўную дапамогу, а астатнія за даўгі перайшлі ў маёмасць дзяржавы.

**М. Вішанка**
Мілейчыцы




**Дарагое Сэрцайка!**

Грышку я знала ўжо пару год, бо ён жыве ў нашай вёсцы. Быў ён у арміі. Цяпер нядаўна вярнуўся. Будучы яшчэ ў арміі, Грышка прапанаваў мне жаніцца, пісаў таксама да мяне лісты. Але я яго не захацела. Проста мне ён не падабаецца. «На воку» я мела прыгожага хлапца з суседняй вёскі. За яго вельмі хацела б выйсці замуж. Ён часам прыязджаў да мяне, хадзілі мы на забаву, гаварыў, што я яму падабаюся. Нядаўна Грышка прыйшоў да мяне ў сваты. Я згадзілася за Грышку выйсці замуж, але толькі слоўна, бо думала, што аб гэтым даведаецца Міша і прыедзе да мяне ў сваты (каб я не выйшла), тады я і адкажу Грышку. Аднак здарылася інакш. Міша падумаў, што я выходжу замуж сапраўды і пачаў ездзіць да іншай. Тады я Грышку адказала, а з-за гэтага ўсяго стала ў нас вялікая злоба. Што цяпер мне рабіць? Мо паведаміць аб гэтым Мішу? Парай.

**Людміла**

**Людміла!** На жаль, ты брыдка паступіла. Не можна будаваць свайго шчасця на чужым няшчасці. Ты зрабіла сорам Грышку, ён таксама мае свой гонар. Ты ж магла адразу Грышку адказаць. Таму іменна ён мае жаль да цябе. А Міша? Відаць, Мішу не вельмі залежыла на табе, таму ён замест прыехаць да цябе і прасіць, каб не выходзіла замуж, паехаў да іншай. На гэта таксама рады няма. Таму не раю табе на гэтую тэму размаўляць з Мішам. Проста: твая віна, дык прамаўчы, пройдзе нейкі час, усё супакоіцца. А ты маеш навучку на будучыню.

**Сэрцайка**

## 25-ГОДДЗЕ НАРОДНАГА ВОЙСКА ПОЛЬСКАГА

З нагоды 25-ай гадавіны Войска Польскага ў ліцэі з бел. мовай навучання ў Гайнаўцы моладзь, згуртаваная ў радах ЗМВ (170 асоб), наладзіла 12 кастрычніка вечарыну, на якой было прынята 30 асоб у рады школьнай арганізацыі ЗМВ. На вечарыне адбыўся конкурс пад загалоўкам: «Што ведаеш аб народным Войску Польскім?» Першае месца заняла Лена Шугала, другое — Анатоль Ахрыцюк і трэцяе —Ірэна Янель.

Пераможцам уручаны падарункі.

*

Клуб Настаўніка пры Доме Настаўніка арганізаваў конкурс пад такім самым загалоўкам сярод настаўнікаў на адной з забаваў. Першае месца заняў Валодзя Сідорскі, другое — Вера Сарока і трэцяе — Януш Сакалоўскі. У Доме Настаўніка была арганізавана выстаўка, прысвечаная Войску Польскаму. Працы свае выставілі мастакі Віктар Кабац, Анатоль Корзун, Васіль Ляшчынскі, Яўгеніюш Хэлестоўскі і др. У Домах культуры і клубах падрыхтаваны актуальныя сценгазеты, фотавыстаўкі, выстаўкі кніжак на ваенныя тэмы.

У многіх святліцах адбыліся вечарыны і акадэміі, спатканні з ветэранамі II сусветнай вайны. Школьнікі падрыхтавалі мастацкія часткі.

**Я.Ц.**
Гайнаўка

## КАНФЕРЭНЦЫЯ

22 кастрычніка ў пачатковай школе ў Лысках адбылася канферэнцыя настаўнікаў школ са злучанымі класамі I—IV. На канферэнцыі ўдзел брала падінспектар грам. Ёка з Беластока. Урок вяла мясцовая настаўніца Данута Свежбутоўская

Тэмай урока было: «Верны сын Народнай Польшчы — Кароль Сярчэўскі». Урок быў так цікавы, што ўсе прысутныя настаўнікі з вялікім захапленнем выслухалі яго. Пасля ўрока настаўніца з Будаў Цімошук прачытала даклад аб школьніцтве на Беласточчыне ў навязанні да тэзісаў на V з'езд партыі. У дыскусіі над урокам і дакладам першая слова ўзяла Аліна Гансеўская са школы ў Геранімове. Вярцінская са Страшава падзялілася дасягненнямі школьнай касы ашчаднасці. Гаварыла яна між іншым, што ПКО зусім не цікавіцца працай касаў ашчаднасці ў школах. Таму яна ашчаднасці дзяцей сваёй школы перанесла ў СОП. За сваю працу атрымала многа разоў узнагароду. У канцовай фазе канферэнцыі слова ўзяла падінспектар Ёка, якая падсумавала выступленні настаўнікаў.

**Мікола Краўчук**
Патока

на засаду, убачым іх. Чаўрыкаў у бінокль разглядае будынкі за рэчкай.

— Глядзіце, — кажа ён, — нехта ў кажусе ідзе ў наш бок. Які чорт нясе яго нанач у лес?

— Падыдзе да моста, плюне ў рэчку або высікаецца і пойдзе назад, — пажартаваў Новікаў.

Але дзядзька ў кажусе не пайшоў назад. Калі ўвайшоў у лес, Новікаў і Нячаеў спынілі яго і прывялі ў карчы. Ставілі мы яму мноства пытанняў, але ні на воднае не атрымалі адказу. Быў так ашаломлены, што цяжка было выцягнуць з яго слова. Паўтараў сваё: у яго жонка і дзеці, і што абсалютна нічога не ведае. Намагаўся цалаваць нам рукі, маліў, каб адпусціць яго.

— Што тут з дурнем гаварыць! — знерваваўся Чаўрыкаў і паслаў дзядзьку к... мацяры.

Дзядзька адыходзіў ад нас задам, дзякуючы і кланяючыся нізка. Калі знік за карчамі, было ўжо зусім цёмна.

— Ну і тып, — сказаў Нячаеў. І каго, уласна кажучы, ён баіцца: партызанаў, немцаў, правакацыі? А мо сам правакатар?

Усяляк можна думаць пасля таго, што за хвіліну адбылося. Не прайшло пасля адыходу дзядзькі і пяці мінут, як пачулі мы ў лесе трэск сухіх галінак. Потым убачылі мы цёмныя сілуэты ў доўгіх шынялях. Немцы абыходзілі нас ад лесу, хацелі адрэзаць нам адступленне ў лес, хацелі выціснуць нас з лесу на адкрытую прастору, на балота. Відаць, немцы не бачылі нас, не ведалі ў якім месцы сядзім, відаць не былі ўпэўнены наконт нашай сілы. Пырснулі мы ў розныя бакі, хаваючыся за дрэвы. Гэты рух прыцягнуў іх увагу, пасыпаліся ў наш бок стрэлы з карабінаў. Мы адказалі серыямі з чатырох аўтаматаў, кінулі дзве гранаты. Ноч, лес, рэха, аўтаматныя серыі, выбухі гранатаў зрабілі відаць сваё. Мы пачулі тупат: «пераможцы свету» ўцякалі.

Мы перабеглі з лесу на балота, у паблізкія карчы, ляглі і назіраем за лесам. А ў ім поўная цішыня. Аднак на балота перабегла з лесу толькі нас траіх. Не было старшага лейтэнанта Аляксандра Чаўрыкава, намесніка камандзіра групы «Дальнія».

Абшукалі мы ўсе карчы, свісталі, адказу не было. Чаўрыкаў знік бясследна.

— Відаць, калі мы беглі на балота, ён не скеміў і пусціўся ўправа, на дарогу, і цяпер недзе блудзіць, — сказаў Нячаеў.

— Дык што рабіць?

— Трэба вяртацца на папярэднюю днёўку і чакаць.

Вярнуліся мы ў аколіцу папярэдняй днёўкі (канкрэтнага месца папярэдняга прывалу ноччу немагчыма было адшукаць, мелі гэта зрабіць раніцай), зашыліся ў кучу ядлоўцу і ляглі спаць.

**Ян Анацік**



**Залатая восень у Пасынках.**
Фота: У. Весялоўскі

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ ЗЗАДУ

Насенны план найгорш рэалізуецца ў Бельскім павеце. Прычынаю таго з'яўляецца дрэнная традыцыя ў продажу кваліфікаванага пасяўнога матэрыялу ў мінулыя гады. Справа ў тым, што ваяводскія ўлады пастанавілі пакончыць з марнатраўствам і ўвялі правіла: прадаваць кваліфікаванае зерне не тым, што хочуць, але тым, хто павінен палепшыць свой пасяўны матэрыял.

Здаралася, што першакласнае пасяўное зерне было проста молата на хлеб альбо прадавалася на рынку, як звычайнае збожжа.

(ся)

# КІНО

## БЕЛАСТОК

**БГКТ**
«На крыллях песні» — 10.XI.

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
,,Skarb bizantyjskiego kupca'' (czeski), 12—13. ,,Czarny żwir'' (NRF), 14—15. ,,Kołysanka'' (radz,), 16—17.

**Дубіны**
,,Pałac w płomieniach'' (rumuński), ,,Pod karnawałową maską'' (kubański), 16—17.

**Нараўка**
,,Jak się masz Vero'' (węgierski), ,,Pamiętnik pani doktór'' (franc.), 13—17.

**Нарва**
,,Julia, Anna, Genowefa'' (polski), ,,BS-38-15'' (NRD), 13—17.

**Чыжы**
,,Jowita'' (polski), ,,Hatari'' (USA), 13—17.

**Дубічы Царкоўныя**
,,Bariera'' (polski), ,,Dwie rywalki'' (radz.), 13—17.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
,,Gdy miłość przemija'' (jugosł.), ,,Stajnia na Salwatorze'' (polski), 13—17.

**Орля**
,,Lekarstwo na miłość'' (polski), ,,Gra bez reguł'' (czeski), 13—17.

**Райск**
,,Spotkanie na przeprawie'' (radz.), ,,5 jeździec Apokalipsy'' (czeski), 13—17.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
,,Strzelby Apaczów'' (USA), ,,Brzoza'' (jugosł.), 13—17.

**Міхалова**
,,Przygoda na wagarach'' (NRD), 12—13. ,,Karambol'' (węgierski), 14—15. ,,Noc Iguary'' (USA), 16—17.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
,,Miłość jednej nocy'' (rumuński) 12—13. ,,Klub kawalerów'' (polski), 14—15. ,,Zakazane piosenki'' (polski), 16—17.

**Шудзялава**
,,Dywersanci'' (jugosł.), ,,Hatari'' (USA), 13—17.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
,,Chłopcy z fantazją'' (radz.), ,,Kronika jednego dnia'' (radz.), 13—17.

**Новы Двор**
,,Lekarstwo na miłość'' (polski) ,,Noc bez końca'' (bułg.), 16—17.

**Ліпск**
,,Miejsce dla jednego'' (polski), ,,Miłość surowo wzbroniona'' (węgierski), 16—17.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6441

